


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

1 чэрвеня 2001 года
№ 22 (319)
Выходзіць па пятніцах

TV ПЛЮС

## Навіны рэгіёна

### III рэгіянальны фестываль

**АШМЯНЫ**. Трэці рэгіянальны фестываль-конкурс выканаўцаў эстраднай песні "Адна зямля" адкрыецца 24 чэрвеня а 14-й гадзіне ў гарпарку.

Аргкамітэт зацвердзіў новыя ўмовы правядзеня фестывалю. Гэта значыць, што спаборніцтвы пройдуць у трох узроставых групах. Ад раёна-удзельніка ў кожнай групе можна заяўляць па 2 выканаўцы. Сёлета на фестывалі выступяць прадстаўнікі 6 раёнаў (акрамя Маладзечна). Зацверджаны і склад журы.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

### Электрасеткі запускаюць турбіну

**МАЛАДЗЕЧНА**. Сёння на маладзечанскіх электрасетках пачынае працаваць новая турбіна. Яна расійскай вытворчасці. Працуе на вадзяной пары.

– Новы агрэгат будзе выпрацоўваць электраэнергію і аднвачасова награвоць ваду ў першай зоне горада (прыкладна, да вуліцы Віленскай), – гаворыць галоўны інжынер раёна цеплавых сетак МЭС **Мікалай Лушчык**. Каб награваць улетку ваду, не трэба падключаць іншае абсталяванне.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

### Новыя маршруты аўтапарка

**СМАРГОНЬ**. Мясцовы аўтапарк №17 адкрыў новы рэйс Смаргонь–Мінск. Хутка будзе хадзіць аўтобус на Ваўкавыск. У будучым аўтапарк адкрыў бы рэйс Смаргонь–Масква, хаця расійскім аўтобусам закрыць яго цяжка.

Кіраўніцтва прадпрыемства звярнулася па дапамогу на набыццё імпартнага аўтобуса ў райвыканкам. Там датацыю ў 30–40 мільёнаў пакуль не даюць.

**Павел МАКЛЮК.**

### Без спіртнога, але з аўтамабілем


Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.

**Маладзечна, Цэнтральная плошча. Манціруецца сцэна фестывалю «Маладзечна-2001».**

**МАЛАДЗЕЧНА**. На правядзенне фестывалю беларускай песні і паэзіі сродкаў з рэспубліканскага бюджэту, у адрозненне ад "Славянскага базару", не закладзена.

Каб падрыхтаваць горад да свята, патрэбны 1 мільярд рублёў. Гэта адзначалася на нарадзе ў гарвыканкоме.

У абласным бюджэце такіх грошай таксама няма, але сталічныя чыноўнікі абяцалі пашукаць надзейныя свабодных сродкаў у міністэрствах. Хаця параілі і актывізаваць жыхароў горада, каб кожны чалавек дапамог добраўпарадкаваць горад.

Галоўным прызам стане, як і на фестывалі-93, аўтамабіль. Тады яго атрымала **Алена Саўленайтэ**. Падчас правядзення фестывалю песні і паэзіі не будуць прадаваць спіртныя напіткі. У радыусе паўкіламетра ад сцэнічнай пляцоўкі не будзе нават піва.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

# Прывітанне, канікулы!

**Заканчэнне траўня для школьнікаў, бадай, улюбёная пара. Нарэшце, можна адкласці ў бок падручнікі і забыцца на іх аж да верасня.**

Хаця для многіх лета становіцца гарачэйшым за зіму – трэба вызначацца ў далейшым жыцці, здаваць уступныя экзамены. На сёлетні год, дарэчы, прыпадае пік дэмаграфічнага выбуху пачатку 80-х. Выпускнікі апошніх год гэта добра адчулі, бо конкурсы пры паступленні ў ВНУ рэзка падскочылі ўверх.

Прагучаў апошні званок для першых выпускнікоў новага, трэцяга тысячагоддзя.


Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.

**Ва ўсе часы школьнікі віталі надыход канікулаў. Тым болей, летніх. Адна з маладзечанскіх сярэдніх школ на мінулым тыдні.**

### У добры шлях, выпускнікі!

**ВІЛЕЙКА. У панядзелак у раённым Цэнтры культуры адбыўся Злёт выпускнікоў.**

Такое мерапрыемства праводзіцца ў другі раз. Былі запрошаныя выпускнікі раёна, класныя кіраўнікі, дырэктары школ і ўсе, хто мае дачыненне да школы і адукацыі ўвогуле.

Сёлета вілейскія школы выпускаюць у самастойны жыццёвы шлях 492 вучні. 45 з іх прэтэндуюць на залатыя і 49 – на сярэбраныя медалі. Па словах загадчыка раённага аддзела адукацыі **Яўгена Кулінковіча**, Вілейскі раён займае першае месца ў Мінскай вобласці па адукаванасці вучняў і кваліфікацыі настаўнікаў.

Выпускнікоў віншавалі ўзорная эстрадная студыя "Экспромт", выхаванцы спартыўнай школы і школы мастацтваў і танцавальныя групы.

**Яўгенія МАНЦЭВІЧ.**

## Экспрэс-апытанне маладзечанцаў

# Дзе вы ўзялі б грошы на фестываль?



**Рыгор Пыжык, прадпрымальнік:**

– Калі на правядзенне фестывалю не хапае грошай, то я лічу, што і фестываль не патрэбны. А цяпер "абуваюць" прадпрымальнікаў "от" і "до".



**Ірына Несцерава, хатняя гаспадыня:**

– Я так бы і рабіла, як цяпер: брала б грошы з прадпрымальнікаў. А што з рабочага возьмеш? Прыдумалі 5%-ы падатак. Фестываль жа рэспубліканскага значэння, няхай бы дапамог рэспубліканскі бюджэт.

**Працяг на 4-й стар.**



## Надвор'е на выхадныя

Субота, 2 чэрвеня

**Мінск**
7 – 8°С (уначы)
12 – 15°С (удзень)



**Вільня**
4°С (уначы)
13°С (удзень)



Нядзеля, 3 чэрвеня

**Мінск**
6 – 7°С (уначы)
13 – 17°С (удзень)



**Вільня**
7°С (уначы)
17°С (удзень)



## Мікрабіялагічны кантроль ежы

**МАЛАДЗЕЧНА. За 4 месяцы ў горадзе на 17,24% вырасла колькасць захворванняў на вострыя кішэчныя інфекцыі. Зафіксавана 36 выпадкаў гепатыту А (летась за такі перыяд быў 1 выпадак).**

Галоўны санітарны ўрач **Міхаіл Грабоўскі** лічыць, што ўсе прадпрыемствы грамхарчу павінны праводзіць мікрабіялагічны кантроль прадуктаў. Гэта, на яго думку, дазволіць палепшыць якасць ежы.

Гарвыканком абавязаў кіраўнікоў прадпрыемстваў забяспечыць мерапрыемствы па паляпшэнні санітарнага становішча, заключыць дагаворы па мікрабіялагічным кантролі і забяспечыць работнікаў уніформай.

Старшыня гарвыканкома **Мікалай Чурсін** папрасіў Міхаіла Грабоўскага ставіць усе прадпрыемствы ў роўныя ўмовы.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ РЭПАРТАЖ

# Непатрэбныя

**МАЛАДЗЕЧНА. Непадалёку ад міні-рынку па вуліцы Ф. Скарыны існуе яшчэ адзін. Так званы "спантанны", які працуе з вечара да цёмнай ночы. Звычайна прадаюць тут бульбу, а па восені – і капусту.**

Што гэта за людзі? Адкуль яны бяруць свой тавар, які значна танней, чым на рынку? У адказ на гэтыя пытанні яны маўчаць або злосна кідаюць:

– Непатрэбныя мы...

Што купляюць за выручаныя грошы, можна здагадацца па іх знешнім выглядзе. Паводзіны іх далёка не заўсёды адпавядаюць этычным нормам. "Рабочыя месцы" пасля іх застаюцца, зноў жа, у непрыглядным стане.

**Ірына РАБУШКА.**



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Увосень на спантанным рыначку добра ідзе капуста. Гэтымі днямі вам ці не задарма прапануюць тут бульбу. Гандаль не спыняецца нават позна ўвечары.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 24 мая | 31 мая |
|---|---|---|
| Долар | 1345,00 руб. | 1362,00 руб. |
| Нямецкая марка | 590,55 руб. | 595,27 руб. |
| Літ | 336,16 руб. | 340,41 руб. |
| Расійскі рубель | 46,26 руб. | 46,82 руб. |
| Злоты | 335,70 руб. | 338,51 руб. |
| ЕЎРА | 1155,02 руб. | 1164,24 руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1380 – 1400 руб. | 1380 – 1400 руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 23.05 | 30.05 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 2280 | 2280 |
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 7570 | 7530 |
| Сасіскі, 1 кг | 2450 | 2550 |
| Селядзец, 1 кг | 1550 | 1580 |
| Рыс, 1 кг | 520 | 550 |
| Грэчка, 1 кг | 460 | 440 |
| Цукар, 1 кг | 580 | 575 |
| Алей, 1 л | 820 | 830 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 680 | 680 |
| Маянэз, 200 г | 260 | 260 |
| Кава "Пеле", 100 г | 1500 | 1500 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 430 | 450 |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 370 | 380 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 400 | 450 |
| Капуста, 1 кг | 800 | 600 |
| Лімоны, 1 кг | 1200 | 1450 |
| Апельсіны, 1 кг | 1100 | 1150 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 1000 | 1100 |
| Масла, 1 кг | 2200 | 2200 |
| Тварог, 1 кг | 900 | 900 |
| Малако, 1,5 л | 350 | 350 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 900 | 950 |
| Бульба, вялікае вядро | 500 | 500 |
| Морква, 1 кг | 1100 | 1200 |
| Яблыкі, 1 кг | 500 | 750 |
| Цыбуля зялёная, 1 пучок | 150 | 200 |
| Радыс, 1 пучок | 250 | 200 |
| Кроп, 1 пучок | 100 | 80 |

## Запазычанасць па даўгабудзе расце

**МАЛАДЗЕЧНА. Каля 70 мільёнаў рублёў складае запазычанасць заказчыка перад ААТ "Будаўнік-169" за будаўнічыя работы на Доме культуры.**

– У маі ішлі работы па перакрыцці даху і ўмацаванні сцен. На наступны месяц плануецца працяг работ па даху, – гаворыць прараб будоўлі **Іван Русак.**

У бліжэйшы час пакладуць асфальт на частку дарогі з боку Цэнтральнай плошчы. Мяжа пройдзе па лініі, дзе заканчваецца бардзюр.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ АХОВА ПРАЦЫ

# Якія ўмовы, такая і работа

**МАЛАДЗЕЧНА. Пры мэтавых праверках выканання правілаў аховы працы на прадпрыемствах высвятляецца цікавая заканамернасць: прыкладна ў палавіне выпадкаў інспектары выдаюць прадпісанні.**

За дапушчаныя парушэнні па ахове працы, працоўнага заканадаўства, за дапушчаныя няшчасныя выпадкі рэгулярна прымяняюцца эканамічныя санкцыі да наймальнікаў, кіраўнікоў і галоўных спецыялістаў.

Найбольш нядобранадзейныя і небяспечныя ўмовы працы пры праверках выяўленыя ў дрэваапрацоўчай вытворчасці.

З праведзеных праверак па Маладзечанскім раёне станоўчую работу па ахове працы адзначу ў Маладзечанскім лясгасе. А найбольш нядобранадзейнымі прадпрыемствамі па траўматызме з'яўляліся ад пачатку года ААТ Радашковіцкі керамічны завод і ААТ Маладзечанская аграхімія.

Эканамічны стан калгасаў раёна цяжкі, што вядзе да невыканання тэхнічных мерапрыемстваў па стварэнні здаровых і бяспечных умоў працы. Дапускаецца эксплуатацыя трактароў, с/машын, станкоў, якія маральна і фізічна састарэлі (больш за 20 год), знос якіх складае больш за 70%. У гаспадарках раёна, акрамя калгаса імя Дзяржынскага і "Краснае", адсутнічаюць санітарна-бытавыя памяшканні. У некаторых іншых яны таксама "ёсць" – знаходзяцца ў антысанітарным стане, няма там гарачай вады і мыла. Спецадзенне выдаецца з парушэннем тэрмінаў і нормаў ва ўсіх калгасах, спецабутку работнікам не даюць нідзе.

**Вера СУМІНА, дзяржінспектар працы.**

## Дэгустацыя марачных вінаў

ВАЛОЖЫН. Заўтра ў рамках акцыі-продажу імпартных марачных вінаў у магазіне "Рамонак" пройдзе дэгустацыя. Падобная дзея на Валожыншчыне наладжваецца ўпершыню.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

■ З НАТУРЫ

# Раскопкі і будоўлі ў Маладзечне



Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.

**МАЛАДЗЕЧНА. Двойчы на год у горадзе ўзнікаюць складанасці з гарачым водазабеспячэннем – ідзе апрасоўка. Сёлета ля "Дзіцячага свету" вядуць раскопкі. Быццам, клад шукаюць.**

**Пры выбары найкарацейшага шляху маладзечанцы прабіраюцца «аленевымі сцяжынкамі» ля «Елгавы», многія жыхары нечакана знаходзяць у сабе спартыўныя здольнасці. Нехта ў вышыню скача, іншы – у даўжыню, а хтосьці і паўзком лезе. І дзецям ёсць чым пазабавіцца: увечары (калі на будоўлі нікога няма) каменнем адзін у аднаго кідаюцца, у вайну гуляюць.**

**Скончыцца рамонт не раней за 1 ліпеня. І фестываль не дапаможа.**

**Ірына РАБУШКА.**



Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.

**Апошнім часам у горадзе рэанімуюць 9-павярховы будынак інтэрната па Вялікім Гасцінцы (насупраць «Электрамодуля»). За некалькі тыдняў паставілі 340 вокнаў, што змяніла знешні выгляд будынка, які стаяў без вокнаў і дзвярэй каля 7 год.**

**Пачаў яго будаваць у пачатку 90-х «Спадарожнік». У 1993 годзе будоўля спынілася. За гэты час работнікі завода (цяпер ужо былыя) стварылі жыллёва-будаўнічы кааператыў.**

**– У доме будзе 160 аднапакаёвых кватэр, – гаворыць майстар будоўлі Іосіф Жоўтка.**

**Днямі вырашана аздобіць адмыслова пастаўленую бетонную агароджу. Застаецца здагадвацца, ці звязаная гэтая актыўнасць з магчымасцю прыезду ў горад А. Лукашэнкі.**

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## На «Электрамодулі» не будзе 100-доларавай зарплаты?

**МАЛАДЗЕЧНА. Сярэдняя зарплата на "Электрамодулі" складае 67,5 тысячы рублёў.**

– Да 1 жніўня мы ўзялі абавязацельствы давесці сярэдні заработак да 82 тысяч рублёў, – абяцае дырэктар "Электрамодуля" **Іван Драгун.**

Старшыня гарвыканкома **Мікалай Чурсін** на нядаўнім пасяджэнні выканаўчага камітэта нагадаў пра абавязковае выкананне распараджэння **А. Лукашэнкі.** Для гэтага, як сказаў Іван Драгун, за год патрэбна ў 4 разы павялічыць выпуск прадукцыі пры зніжэнні падатковага цяжару. За 4 месяцы тавараў народнага спажывання прадпрыемства выпусціла на 30% менш, чым за такі ж перыяд летась.

Хаця ёсць тут высокааплачваемыя спецыялісты, якія атрымліваюць і па 100, і па 200 долараў. Але зборшчыцам 2 разраду і прыбіральшчыцам заплаціць па 100 долараў магчымасці няма.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Дапамажыце адшукаць



МАЛАДЗЕЧНА. ГРАУС устанаўліваецца месцазнаходжанне **Міцкевіча Віктара Віктаравіча**, 8.04.1971 года нараджэння, ураджэнца і жыхара Маладзечна. 24 чэрвеня 2000 года па заканчэнні работы ён пайшоў дадому, і да цяперашняга часу яго месцазнаходжанне невядомае.

Прыметы: на выгляд 30 год, высокага росту, сярэдняга целаскладу, твар авальны еўрапейскага тыпу, валасы цёмна-русыя, прамыя, сярэдняй даўжыні, вочы блакітныя.

Быў апрануты: кашуля джынсавая цёмна-сіняга колеру, на маланцы, штаны спартыўныя цёмна-сіняга колеру, з чырвонымі ўстаўкамі па баках, басаножкі карычневыя.

Просім грамадзян, якім штосьці вядома пра месцазнаходжанне Міцкевіча В. В., які прапаў, паведаміць у аддзел міліцыі **па тэлефонах 76155, 71446 або па тэл. 02.**

# Першая камунія ў касцёле



Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.

**МАЛАДЗЕЧНА. У нядзелю ў касцёле прайшла першая камунія. Пра гэта свята каталікоў расказвае сястра Себасціяна:**

**– Першая камунія – гэта вялікая ўрачыстасць у дзетак. У гэты дзень у іх былі першыя прычасць і споведзь. Свята сімвалізуе прыняцце цела Ісуса Хрыста ў душы хрысціян. Адбываецца яна раз у год у канцы мая ці пачатку чэрвеня. Першая камунія для прычашчоных – гэта як выпускны экзамен у школе, бо да гэтага яны наведвалі на працягу года заняткі ў нядзельнай школе.**

**Юрый КАРПІЦКІ.**

**Экспрэс-апытанне маладзечанцаў**

# Дзе вы ўзялі б грошы на фестываль?

**Заканчэнне.**



**Надзея Талай, навучэнка:**

– У кожнага жыхара горада ўзяла б невялічкую частку з зарплаты.



**Алена Будзько, будучая закройшчыца:**

– Правяла б агульнагарадскую латарэю. Калі б не куплялі білеты, прымусіла б гэта зрабіць добрымі прызамі.



**Аксана Зенава, хатняя гаспадыня:**

– Прасіла б дапамогі. Ёсць у горадзе багатыя арганізацыі і людзі. Калі б хацелі вяселля, то дапамаглі б.



**Генадзь Скапец, беспрацоўны:**

– Я узяў бы з камерцыйных структураў, бо яны падаткі не плацяць поўнасцю, я дакладна ведаю. І з самагоншчыкаў.

**Фотаапытанне падрыхтаваў Юрый КАРПІЦКІ.**

■ **ЗДАРОЎЕ**

# Дзень без тытуню

**Учора прайшоў Сусветны дзень без тытуню пад дэвізам “Другасны дым забівае. Зробім паветра чысцейшым”.**

Пра шкоду курэння можна прачытаць на любым пачку цыгарэт. Аднак уздзейнічае тытунёвы дым і на навакольных. Ён утрымлівае больш за 40 канцэрагенных рэчываў.

Пасіўнае курэнне павышае рызыку развіцця рака лёгкіх, сардэчна-сасудзістых і рэспіраторных захворванняў, раптоўнай дзіцячай смяротнасці.

Таму, перш чым закурыць, варта падумаць, дзе гэта рабіць.

**Сяргей КАРАВАЙ, загадчык санітарнага аддзела Маладзечанскага РЦГіЭ.**

■ **КАЛОНКА З ПРАЦЯГАМ**

# Фантастычнае падарожжа з Рыбаком Гатаўскім

**Працяг.**

Рухаемся далей. Убачылі, як ля крынічкі дзве жанчыны падстаўлялі пад струмень рукі, потым мыліся, адна на адну пaглядалі, смяяліся. Шчокі румяныя, галасы бадзёрыя. З выразаў сукенак спакусліва бялелі пагоркі грудзей. Знаўца ўсіх прыгод і рытуалаў, дзядуля зрабіў вывад:

– Верaць у цудадзейную сілу крынічнай вады. Так хочацца ім быць прыгожымі, іншым падабацца. Усім гэта ўласціва.

Ля іншай крынічкі адзінокі мужчына паласкаў горла. Ці яно ў яго нясцерпна балела, ці, можа, гаварыў бязглуздзіцу сваёй спадарожніцы на патаемных сцежках, ці прыпухлі і смылелі вусны ад доўгіх і шматлікіх пацалункаў? Самі мы не разгадалі, а спытаць незнаёмца палічылі нетактоўным.

У кусціках, каб не бачыла чужое вока, кампанія распівала гарэлку. Чуліся галасы:

– Згінь, нячыстая сіла, застанься чысты спірт.

– Спалучым нашы намаганні.

– Чарачка-каток, ляці ў раток.

– А чаму ты п’еш з закрытымі вачыма?

– Я даў жонцы зарок, што не буду глядзець на гарэлку.

Непрыемна падслухоўваць чужую размову, але не рушылі далей, бо захацелася паслухаць выказванне-прызнанне аднаго ўдзельніка застолля ў кустах:

– Урач у мяне пытаецца, чаму шмат п’ю гарэлкі. Я яму адказваю: “Спачатку спажываю цыбулю, каб заглушыць пах гарэлкі, а пасля п’ю, каб не было паху цыбулі”.

Пачуўся рогат, затым настала цішыня: відаць, напаўнялі чаркі. Кожны прыпамінаў тост, каб здзівіць арыгінальнасцю сяброў-кустаўкоў.

Крок за крокам набліжаемся да пляжа санаторыя “Нарач”. Мінулі жоўтую палатку ЗАА “Нарач”, дзе многія для весялосці, бадзёрасці, смеласці, рашучасці прымаюць порцыю грымучай вадкасці. На ўсю моц грымела музыка, чулася з дынаміка песня “Ах, какая женщина...”

Заўважылі такую сцэнку. Хударлявы мужчына чымсьці прыцягнуў увагу навакольных і гаварыў:

– Я пра гэта чытаў і цяпер цвёрда перакананы, што чалавецтвам кіруюць два прыроджаныя інстыкты.

– Чаму два, а не тры, чатыры? – дапытваўся ў яго нашмат маладзейшы.

Толькі два, – настойваў на сваім лектар-самавучка. – Першы з іх – працяг роду. Каб яго не было, мы з вамі не з’явіліся б на белы свет, у саміх нас не было б дзяцей.. А другі – самазахаванне. Гэта – мець жыллё, працу, набыць нейкі дастатак, вылучацца сярод іншых, не пярэчыць начальству.

**Працяг будзе.**

**Міхась ЧАРНЯЎСКІ.**

■ **АЎТААМАТАРУ**

# «Не купляйце аўтамабіль,

## калі няма сродкаў на яго ахову ад угону»,

### – раіць начальнік смаргонскага міжраённага аддзела Камітэта па арганізаванай злачыннасці і карупцыі пры МУС РБ Мечыслаў Пецькан

**СМАРГОНЬ. Тамтэйшы аддзел існуе шэсць год. У поле зроку яго дзейнасці трапляюць арганізаваныя злачынныя групоўкі, якія займаюцца грабяжамі, разбоямі на тэрыторыі Астравецкага, Ашмянскага і Смаргонскага раёнаў. Аператыўнікі выяўляюць лідэраў гэтых груповак, займаюцца раскрыццём злачынстваў, што падпадаюць пад катэгорыю асабліва цяжкіх. Нашая размова з начальнікам аддзела Мечыславам Пецьканом была акрэсленая крадзяжамі аўтатранспарту. Балазе, у супрацоўнікаў аддзела апошнія часы работы ў гэтым накірунку было, мякка кажучы, воз і цялежка.**

**– У горадзе апошнія месяцы толькі і пачуеш, што крадуць аўтамабілі. Як выглядае крымінагеннае становішча з гэтай праблемай?**

– Прабачце, але ў вас крыху запозненыя дадзеныя. Для нас угоны аўтамабіляў – гэта практычна большасць спраў, даведзеных да судоў, іншыя ўгоншчыкі неўзабаве будуць асуджаныя. Праўда, праблема была актуальная летась. На “нашых землях” скралі 25 аўтамабіляў. Тады папацець давялося не толькі нам, але і міліцыянерам з усіх трох раёнаў. Адпрацоўваліся ўсемагчымыя версіі, падазроныя. Работа ішла ў прамым сэнсе дні і ночы. Вынікі яе не прымусілі доўга чакаць, і неўзабаве на рынку ў Ашмянах быў затрыманы жыхар Наваполацка. Ён спрабаваў збыць 500 фальшывых долараў ЗША. Пачалі правяраць яго на прыналежнасць да іншых злачынстваў. Высветлілася, што ён уваходзіць у адну з наваполацкіх груповак, якая займаецца крымінальным аўтабізнесам. Частка крадзяжоў у Ашмянах і Смаргоні – гэта справа іх рук. У гаражах знайшлі мноства запчастках, крадзеныя аўтамабілі. Гэта пацягнула за сабой цэлы ланцужок іншых аўтамабільных груповак.

**– Увогуле, колькі такіх груп было выкрыта?**

Дзве ў Наваполацку, адна ў Маладзечне, у склад дзвюх груп уваходзілі мясцовыя “аўтааматары” са Смаргоні і Ашмянаў. Яшчэ адзін былы супрацоўнік ДАІ Астравецкага РАУС у чаканні суда бавіць час за кратамі за збыт украдзеных у Літве аўтамабіляў. Мікрааўтобус ён паспеў прадаць, а па дзве астатнія нашы супрацоўнікі ў якасці пакупнікоў наведаліся да яго дадому.

Добраарганізаваная была групоўка жыхара Ашмянаў **Жызнеўскага**. У яе склад уваходзілі смаргонец **Уладзімір Чэрнік** і ашмянец **Пяткевіч**. Яны займаліся ўгонамі ў Ашмянах, Смаргоні і Лідзе. Пасля ўгону аўтамабіль прыганялі ў падрыхтаваны гараж, перабівалі на кузаве нумары і прадавалі. Былі выпадкі, калі аўтамабіль разбіралі на запчасткі. На ўзбраенні ў групоўкі былі 4 сучасныя радыёстанцыі, спецыяльнае прыстасаванне для пранікнення ў салон любога аўтамабіля. Яго, дарэчы, зрабіў па чарцяжах слесар ашмянскага завода “Радыётэхніка”. Акрамя гэтага, у Жызнеўскага пры вобыску знайшлі відэакасету з амерыканскім відэафільмам “Як украсці аўтамабіль за 60 секунд”. Ён прызнаўся, што касета была ў яго амаль настольная. Пры іх затрыманні супрацоўнікі спецпадраздзялення “Алмаз” вымушаныя былі прымяніць зброю. “Лідэр” Жызнеўскі атрымаў сем год.

Другі аўтамабільны аўтарытэт са Смаргоні **Віктар Чарняк** цяпер знаходзіцца ў вышуку. Са сваімі сябрамі ён выкраў 9 аўтамабіляў. Пасля таго, як мы выйшлі на іх след, Чарняк схаваўся. Хаця яго почырк відавочны па некаторых крадзяжах ў Валожыне, Мінску.

**– Уладальнікі якіх мадэляў аўтамабіляў часцей за іншых станавіліся ахвярамі?**

– “Audi”-80; 90; 100”, “Volkswagen-Golf”, “Volkswagen-Passat”. Усе гэтыя аўтамабілі былі выпушчаныя да 1995 года і каштавалі на аўтамабільных рынках да 2000 долараў ЗША. Уладальнікамі іх былі людзі з нявялікімі даходамі і, заўважу, каб купіць для сваіх патрэб аўто, грошы збіралі не адзін год. Злачынцаў гэта не цікавіла. Аўтамабілі расійскай вытворчасці ўгоншчыкаў не цікавяць.

**– Дзе злачынцы збываюць крадзеныя аўтамабілі?**

– Адназначнага адказу ніхто даць не зможа. Калі прааналізаваць справы, то, напрыклад, наваполацкія групоўкі збывалі аўтамабілі ў Пскове. Іншыя проста разбіралі іх і прадавалі запчасткі на рынках, сваім знаёмым. Зразумела, па цэнах, як прынята гаварыць, ніжэй за рыначныя. Прыкладна, напалову.

**– Ці можна падзяліць угоны машын на пэўныя віды?**

– Прыкладам, ёсць разбіты аўтамабіль. Яго гаспадар “заказвае” у злачынцаў такую ж мадэль, колер. Затым перарабляюцца кузаўныя нумары – і можна ездзіць. Другі від такі. Ёсць дакументы на пэўную марку, але няма машыны. Злачынцы за паўцаны прыганяюць такім людзям “чатырохколавага каня”. Гэтыя віды найбольш распаўсюджаныя. Яшчэ ёсць дагаворны крадзеж. За мяжой злачынцы дамаўляюцца з гаспадаром “крутой” машыны, якая каштуе 100 тысяч і болей долараў. Яе “выкрадаюць”, даючы гаспадару пэўную суму грошай. У дадатак ён атрымлівае страхоўку. Злачынцы ж робяць нейкім чынам дакументы і прадаюць машыну за паўцаны ад яе рэальнага кошту.

**– Якія парады аўтаўладальнікі могуць пачуць ад вас, каб не застацца без свайго “жалезнага сябра”?**

– Абавязкова ўстанаўлівайце сігналізацыі, выкарыстоўвайце ўсе магчымыя спосабы аховы. Не пакідайце без нагляду аўтамабілі ля рынкаў, крамаў. Большасць крадзяжоў здзяйсняецца менавіта ў гэтых месцах. А ўвогуле, перш, чым купіць аўтамабіль, падумайце, ці ў стане вы забяспечыць яго ахову.

**Гутарыў Мар’ян ВЯНГРОЎСКІ.**

